© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 40 (1179) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 1 КАСТРЫЧНІКА 1978 г. ЦАНА 60 гр.




**Па роднай зямлі.** Па дарозе з Нурца ў Клюковічы.

Фота В. Рудчыка.

## ЁН ВЫЗВАЛЯЎ БЕЛАСТОЧЧЫНУ

Нават першы поціск рукі, першыя словы адразу выклікаюць сімпатыю да гэтага чалавека — сярэдняга росту, моцна збудаванага, з адкрытым малажавым тварам, але ўжо з густым срэбрам сівізны. Так, у Героя Савецкага Саюза **Івана Арсенцьева-Чарняца,** нягледзячы на яго 57-гадовы ўзрост, ва ўсім адчуваецца тая маладзецкасць, энергія і жыццёвы аптымізм, што ўласцівы хіба ж толькі людзям вялікай душэўнай сілы, на долю якіх выпалі незвычайныя здзяйсненні. А ў яго было іх столькі, што яны маглі б скласці вялікую і захапляючую эпапею. І то эпапею, якой напэўна пазайздросціць кожны сапраўдны мужчына. Прыгадаем хоць некаторыя з іх.

Шустры хлапчук з сяла Троіцкага, што загубілася недзе сярод бяскрайніх саланчаковых стэпаў Адэскай вобласці, марыць аб моры, „аб дальніх аганьках маякоў" і... канчае Адэскае мараходнае вучылішча. Калі ён ужо спазнаў красу чарнаморскіх начных штыляў і грозных штормаў „бора", яго пацягнула... у паветра, да панавання над гэтай яшчэ больш пагрозлівай і небяспечнай стыхіяй. Зусім напярэдадні нападу фашыстаў на Савецкі Саюз ён заканчвае Чарнігаўскае авіяцыённае вучылішча знішчальнікаў і праходзіць, а дакладней у штурмавым самалёце агнём прабівае, свой баявы шлях ад прадгор'яў Каўказа ў самы Берлін. За гэты час у яго было сотні баявых вылетаў і сотні раз смерць заглядала яму ў вочы. Але ён перамог і смерць, нават тады, калі яго збілі ў баях над Кубанню, як паранены гарэў ён над Керчанскім пралівам — не злічыць усіх тых выпадкаў, калі яму даводзілася шчыпаць самога сябе, каб пераканацца, што ён яшчэ ў жывых.

Пасля дэмабілізацыі І. Арсенцьеў-Чарнец невялічкую часціну гэтых перажыванняў перадаў у першай сваёй

(Працяг на стар. 4)



## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

## БЫЛО Ў ХАЦЕ ШЭСЦЬ СЫНОЎ І ДАЧКА...

Нядаўна пазнаёміўся я з бацькам шасці сыноў і адной дачкі, які сваё жыццё дажывае ў адзіноцтве, толькі з жонкаю, выпрацаванаю і хвораю. Сам ён таксама ледзь ужо дыхае.

А ўсё ж спадабаўся ён мне, бо ў яго лёсе, як у крыштальным люстэрку, убачыў я сваё ўласнае сіроцтва, жыццё далёка ад самых блізкіх, якіх мая Палашка (пры нейкай і маёй дапамозе) у болях нарадзіла і ў свет пусціла.

Завуць яго Мікалай Семянчук. Жыве ў вёсцы Дарожкі. Гэта за Нарвай, за ракой Нарвай, цяпер у Юхнавецкай гміне. Аўтобусам можна даехаць амаль пад самую хату. Гэтыя інфармацыі, магчыма, прыдадуцца тым, хто захоча наведаць дзядзьку Семенчука. Чалавек ён вельмі гасцінны і любіць спагадлівых людзей. Хату яго пазнаць не трудна. Ашалёваная, прыгожа памаляваная, за жалезнай, фанабэрыстай агароджай, з ганкам.

Вось на гэтым ганку мы і прыселі. Побач звычайнага пачастунку, знайшлася на стале „Ніва", з якой Мікалай Семянчук не расстаецца ад пачатку яе існавання. Па ўсім гэтым даводзіцца меркаваць, што ён чалавек вучоны, чытае на беларускай, рускай і польскай мовах.

— Яшчэ і па-яўрэйску, — кажа ён, — крыху ўмеў, калі ў даваенны час даводзілася гандляваць з беластоцкімі жыдкамі. Аднак школу прыйшлося мне бачыць толькі праз акно. Нават у калідоры не пабываў.

— Паслухайце яго, ён вам нагаворыць! — уключылася яго жонка, якую ён Дамінікай называў, значыць, па-нашаму, Домка. Геройская баба, хаця хворая. Нічога дзіўнага, што на дзяцей ёй аж так пашчаслівілася.

— Гэта з бяды, — смяецца яна. — Бо не было чаго есці, дык каханнем карміліся.

— А дзе ж цяпер вашы дзеці? — пацікавіўся я.

— На самастойны хлеб пайшлі, — гаворыць цётка Домка, — сыны пажаніліся, дачка выйшла замуж, усе ўжо абсталявалі ўласныя сем'і. Два сыны працуюць у тутэйшай спулдзельні прадукцыйнай.

— Асабліва Мірaслаў, — адазваўся яе муж, — славіцца ў нас як выдатны механізатар. З трактара перасядаецца на камбайн, з камбайна на грузавік, а калі трэба дык і легкавым аўтамабілем кіруе.

Тут можа варта яшчэ дабавіць і тое, што Домка і Мікола Семенчукі таксама шмат часу працавалі ў дарожкаўскай спулдзельні. Некалькі гадоў Семянчук быў нават яе старшынёю.

— Калі закладалі гэтую спулдзельню, — успамінае жонка, — дык я якраз цяжарная хадзіла. Баялася, што працаваць не змагу...

— Што там многа гаварыць! — спы-

(Працяг на стар. 4)

## ПРЫСТУПАЙЦЕ ДА НАШЫХ КОНКУРСАЎ!

У наступаючым культурна-асветным сезоне Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і „Ніва" разам з іншымі супрацоўнічаючымі арганізацыямі, таксама як у папярэднія гады, праводзяць **пяць** конкурсаў. Усе, хто толькі пажадае актыўна ўдзельнічаць у культурнай дзейнасці, напэўна знойдзе сярод іх нешта адпаведнае для сябе, а кожны гурток БГКТ і ў вёсках і ў гарадах павінен паставіць справай свайго гонару, каб яго члены прынялі ўдзел у некалькіх конкурсах, а найменш ужо — у адным з іх. А ўдзельнічаць ёсць у чым і маладым і старэйшым.

Конкурс **„Беларуская песня-79" для дарослых** прадбачвае ўдзел салістаў, дуэтаў і калектываў у дзвюх катэгорыях: беларускіх фальклорных песень і песень, напісаных кампазітарамі. Кожны ўдзельнік павінен выступіць з двума творамі, з якімі яшчэ не выступаў на папярэдніх такіх жа конкурсах. Эліміняцыі ў мясцовасцях адбудуцца ў лістападзе, раённыя — у снежні 1978 г., а цэнтральны агляд — у студзені 1979 г. Тэрміны, як відаць, надта блізкія, таму неабходна ўжо пачынаць падрыхтоўку да конкурсу.

Нельга адкладваць надалей і справы ўдзелу ў **конкурсе тэатральных калектываў,** які пачнецца раённымі аглядамі ў студзені, а закончыцца фінальным аглядам у лютым 1979 г. Калектывы будуць класіфікавацца ў дзвюх катэгорыях пастановак: п'есаў і фальклорных інсцэніровак. Нельга прыступаць да конкурсу з тымі пастаноўкамі, з якімі калектыў ужо выступаў на працягу апошніх двух год на такім жа конкурсе. Вядома, да ўдзелу ў конкурсе патрэбна настойлівая праца, старанная падрыхтоўка, шмат пробаў-рэпетыцый, касцюмы, дэкарацыі і г.д., таму час ужо пачынаць працу.

Таксама на студзень і люты прадбачаны раённыя і цэнтральны агляды выканаўчага майстэрства **народных музычных калектываў і музыкантаў.** Кожны ўдзельнік павінен выступіць з дзвюма мелодыямі. Пажадана, каб адна з іх была колішняй народнай мелодыяй з данай мясцовасці. Побач з акардэонамі, гармонікамі, гітарамі, скрыпкамі, бубнамі і іншымі папулярнымі музыкальнымі інструментамі, варта таксама вярнуцца да ігры на цымбалах, жалейках, пастуховых трубах, свісцёлках і іншых забытых ужо інструментах, а таксама на лістку, піле і г.д.

Школьную моладзь ад пятага класа ўзвыш, калі не прыме нехта з яе ўдзелу ў конкурсе „Беларуская песня — 79" для дарослых, заахвочваем прыступіць да конкурсу **„Беларуская песня-79" для школьнікаў.** У ім могуць удзельнічаць салісты і невялікія вакальныя групы, рэпертуар — і народныя і напісаныя

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.

**АЛЬДОНА БАРОВІЧ**

### ПРЫЙДЗЕ ЧАС

*Прыйдзе час*
*калі ніхто ўжо не зразумее нікога*
*калі будуць толькі самотныя сярод самотных*
*і яшчэ не адно лета паіржавее*
*ў далёкую восень*
*Прыйдзе час*
*калі будзем туліць здранцвелымі рукамі*
*жменю зямлі запаветнай*
*як адзіную праўду*
*аб сабе —*

*Такі прыйдзе час*
*што будзем паволі сплываць спакоем*
*у старыя карэнні*

*(Верш з кніжкі „Monolog przed północą“).*

Пераклаў **Ян Чыквін**

**ТАДЭВУШ РУЖЭВІЧ**

### БАЧУ ВАЧЫМА

*Хмары плывуць над домам*
*у якім жыццё маё праходзіць*

*чорныя выскаліўшыся перавальваюцца*
*над зямлёю*
*ясныя praмінаюць*
*быццам іх не было*

*Урастаю ў жыццё*
*штораз глыбей і шырэй*
*нетрывалы праводжу вачыма*
*хмары*
*і мацней кахаю зямлю*
*тaптaную чалавечымі нагамі*

Пераклаў **С. Яновіч**

**АНДЖЭЙ ТХУЖЭЎСКІ**

## ДРУШЛЯК

*Друшляк — гэта прадмет паўсюднай прагі*
*Цэдзіш хутчэй чым словы Адлееш застанецца*
*Думаю Калі прыйдзе мода на друшлякі*
*Калі будзем песні спяваць аб іх*
*аб пераможных апалоніках*
*перахрышчаных па-свойску*

*Калі зразумеем што не ўсё мусіць быць акіянам*

*Ад дзяцінства любіў я друшляк*
*Калісьці нават быў я гаспадыняй*
*каб мець бліжэйшы кантакт*
*Той-сёй мяне падвёў*
*а друшляк не падвёў*

Пераклаў **Ян Чыквін**

**АНДЖЭЙ К. ВАСЬКЕВІЧ**

## Погляд цябе ўратуе

Тое, што можа цябе ўратаваць не жыве ў табе
Маўчун сярод нямых і сярод мноства чужуткіх
не да зразумення прадметаў рухомы
пуп света у бліску смерці чужой жывеш сапраўды
а тая смерць якая здарыцца табе яе ты не пазнаеш
Спіш у пoглядзе чужым бачыш у сне рэчаіснасць
якая цябе запаўняе Дык паміраеш дык нараджаешся
спаўзаеш у лона маці тлееш Назойлівая зелень
пільнуе цябе і халодныя вочы неспячых зор

*(Фрагмент верша „Wiesz już...“ з кніжкі „Bezsenna jawa“. Загаловак ад перакладчыка)*

Пераклаў **Ян Чыквін**



**ЭДВАРД ГОЛДА**

## УЦЁКІ

Адкуль гэтыя абарваныя сказы,
няпоўныя ўсмешкі,
хадзьба па калідорах у напрамку,
які вядзе найчасцей навокал?

Гэта не людзі, а толькі шумячыя
вушы і раты, якія злучаюцца
ў пастаянна зменлівыя сістэмы, залежна ад патрэб
вызначаных невядомымі сувязямі
не вядома каго з не вядома кім,
могучыя спаўняцца не вядома калі
і чаму.

Штосьці нас акружае, штосьці нас вяжа,
быццам жывем мы ўнутры палімераў,
з месц сваіх зрываемся
і лётаем, уцякаем
праз хвалюючую блытаніну,
як праз сон марудны,
каб прачнуцца там,
адкуль мы ўцяклі.

Пераклаў **Ян Чыквін**

*(Верш з кнігі „Po latach świetlnych“)*

## У НАС У ГАСЦЯХ

**ЭРВІН КРУК**

## ПІСАЦЬ

*Гэта пра яе сапраўды хачу я пісаць:*
*У ружовай смузе святла,*
*Калі дрыготка расплюшчвае яна вочы,*
*Быццам два лісточкі бярозавыя,*
*Што ўвесну адляпіліся ад белага сну.*

*Або над Нараўкай зноў — з дзяцінствам побач,*
*Там, на сцяжынах парослых,*
*Дзе царкоўны звон склікаў*
*Пагубленыя сляды яе ножак, дзе ахоўваў*
*Сасновы дом на белавежскай паляне жывічнай.*

*Або над Віслай — калі постаць яе*
*Асвятліла імя ўласнае — гэта мне,*
*І супыніўся я, бязмоўны, у лёгкіх туманцах сну,*
*У заценi бяроз, і яе валасоў.*

*Або пакуль прачнуся — у маўчанні слоў,*
*Якія пад вейкамі шукаюць спасу ад хлусні.*
*— Менавіта, цяпер, калі яна надалей тайніцай мне,*
*І калі я, поўны захаплення ёю, моцна хачу пісаць пра яе.*

Пераклаў **С. Яновіч**
*(З кніжкі „Wiersze“)*

**АДРЫЯНА ШЫМАНСКАЯ**

## ЦЯЖАР

*Шукаю*
*ўсіх гэтых святых*
*гэтых мучанікаў эвалюцыі*
*галодных заморaных ашалелых*
*смакуючых свежае мяса*
*ўсіх гэтых памёршых загінуўшых забітых*
*з вінтоўкі кап'ём ікламі кіпцюрамі*
*гэтых выпаўзаючых на бераг з самюткага дна акіяна*
*і што карабкаюцца з нор*
*і гэтых што якраз расцвілі на першай жывой галінцы*

*Шукаю іх*
*гляджу сабе ў вочы заглядваю ў вусны*
*адхіляю тонкую шпалерынку скуры*
*адкрываю жылы мозг і сэрца*
*і з разгону забіваюся ў найбольш цёмны закутак клеткі*
*і схіляюся над шчанём маленечкім над крылом чмяля*
*над карункай цвету*

*Знаходжу як жа нямнога*
*нейкі колер гук форму запах*
*знясмелены парастак уяўлення*
*некалькі ядомых палістырэнаў і жменю неядомых парываў*
*гэтыя стагоддзі жыцця ва мне амаль не маюць вагі*
*хіба што хілую постаць*
*слабы зрок атупелы слых*
*дрыжаць ад холаду ды канаюць у спёку*
*і як бы нічога не здарылася*
*і як бы сапраўды нічога не было ад пачатку свету*
*і як бы ніхто і не спыняў сонца і не зварухнуў зямлю*
*і як бы нікому і не ўдалося прыглядзецца да самога сябе*
*да апошняй кроплі крыві*

Пераклаў **Сакрат Яновіч**

**МАР'ЯН ШЛЯТ**

## ЛІСТ З ДАПІСКАЮ

З самое раніцы знаходзіўся я ў сваім прыгарадным садку, у якім працярэбліваў яблынькі, кусты парэчак і агрэсту; у полудзень прыйшла жонка. Яна прынесла ў карзіначцы каўбасы, хлеба, пляшку піва, ды яшчэ і ліст. Я абмыўся, халаднючаю вадою, пад кранам, з якога выцякала іржа і нейкі мул, што за зіму наасядаў у ім, а рукі выцер аб каўбойскія нагавіцы, папэцканыя зялёнаю цвіллю ад яблыневага голля, і спакойна рассеўся на парозе альтанкі.

— Твая сястра піша, — сказала жонка.

Я ласаваўся півам, яно пахла хмелем, а яшчэ і цярэбленай яблынькай, яе брыняючай карою. З канверта высмаргнуў я невялікую картку паперы, відаць, вырваную з вучнёўскага сшытка. Сястра паведамляла, што даўно прыбіралася напісаць да мяне ды ўсё часу не хапала ёй. Зараз часу ў яе яшчэ меней, чымсьці калі-небудзь раней; зрабіла ўданыя захады паступіць на работу, на палавінцы штата, каб дапамагчы мужу ўзбіраць грошай дзеля куплі легкавой машыны. Заяўку, на чэшскую „скоду“, ужо афармілі і ўзяліся будаваць гаражык, з каналам. З вялікім каналам, фамільная магільня змясцілася б у ім, — паджартоўваюць сабе гэтак. А з той палавінкі штата, з таго паўштата, трохі капеек ёсць, адно з доглядам малых дзяцей ускладнілася справа. У Каські нагніла ў носе балячка, цэлы тварык напух ёй. Кажуць, такая балячка з'яўляецца вельмі небяспечнай. Дзіця пакутвала дзве ночы, зусім не магло спаць, але, дзякаваць богу, ужо па ўсім. Ужо па бядзе!

У лісце было яшчэ пытанне наконт таго, калі мы, я з жонкай, наведаем іх?! Даўно яны не бачылі нас, а ёсць аб чым пагаварыць, (пра самаходы). У Вялікдзень будзе Юзік, дык, можа, і мы выбраліся б да іх у гэту пару...

Сястра дапісала ў канцы:

Зямля ўжо прададзена. А паўштат, гэта работа ў натарыуса; сястры было прыкра, калі, аднойчы, убачыла ў натарыяльным бюро, што ў зямельнай кнізе выкрэслілі нашага бацьку і на месцы ягонага прозвішча запісалі нейкае іншае, чужое...

Я дапіў піўка і ўстаў.

— Што, не будзеш есці? — запытала ў мяне жонка.

Я, нічога не адказаўшы ёй, засадзіў агародніцкую пілку за пасак і пачаў улазіць на пакручастую арэшыну; у віхуру зламалася на ёй тоўстая крывуля. Цяжка сапучы я, урэшце, раскірачыўся ў кроне дрэва ды паглядзеў дадолу. Было відаць мне цалюткі мой садок; выдаўся малым, цалкам маленечкім, хоць знаходзіўся я не надта высока.

Гэта лапінка зямлі была маёй!

Пераклаў **С. Яновіч**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

